ІНФАРМАЦЫЙНЫ
# БЮЛЕТЭНЬ НКЮ

№ 5. | ЛІСТАПАД 1930 г. | № 5.

## ЗЬМЕСТ





## Больш чоткасьці у рабоце Пракуратуры

У сучасных умовах, калі выкананьне пяцігадовага пляну народнае гаспадаркі праводзіцца з вялізарным посьпехам, калі ў корні мяняюцца ня толькі гаспадарчыя формы, але і мэтады, а галоўным чынам тэмпы працы, калі работа на кожным вучастку дзяржаўнага жыцьця патрабуе асаблівай чоткасьці і яскравасьці, то зусім зразумела, што чоткасьць і яскравасьць, а таксама і мэтады і тэмпы работы павінны быць іншыя і ў паасобных абслугоўваючых соцыялістычнае будаўніцтва органаў і устаноў, у тым ліку і органаў юстыцыі.

Органы пракуратуры прыймаюць значны удзел ў ва усім палітычным жыцьці краіны. Няма ніводнай палітычна-гаспадарчай кампаніі, якая бы праходзіла без удзелу пракуратуры. У шмат якіх выпадках Пракуратура ужо перабудавала свае мэтады работы. Яна адмовілася ад аднаасобнага правядзеньня ўскладзеных на яе задач і цесна арганічна зьвязалася з рабочай грамадзкасьцю. Усё гэта зьяўляецца вялікім дасягненьнем у рабоце пракуратуры, але-ж да гэтага часу яшчэ няма дастатковай чоткасьці, якая неабходна для атрыманьня максімальнага эфэкту.

Некалькі момантаў:

Інфармацыйныя сводкі, атрымліваемыя органамі пракуратуры паказваюць на вялікую праведзяную работу ў розных кампаніях. У іх адлюстроўваецца ўся праца вучастковай пракуратуры. Што-ж мы там бачым? Я застанаўлююся на некалькіх момантах; перш за ўсё, які удзел пракуратуры ў такой важнай палітычнай кампаніі, як мабілізацыя унутраных рэсурсаў? У сводках мы маем цэлы шэраг лічб, узятых ў розных установах, якія паказваюць нам колькі якая установа сабрала па розным грашовым апэрацыям, а між іншым мы амаль нічога не находзім аб тым, што зрабіла пракуратура для пажыцьцяўленьня мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў. Не указана колькі чалавек прыцягнута да адказнасьці за тое, што яны не ў свой час здалі сабраныя сумы, а між тым маюцца такія выпадкі, калі тая ці іншая ўстанова атрымоўвае грошы і не здае своечасова ў банк.

Ёсьць зьвесткі, што 30 раёнаў не далі ніякіх зьвестак аб сабраных сумах ад кулацкіх гаспадарак, як быццам па гэтым раёнам зусім няма кулакоў.

Другі прыклад:

Пракуратура прыймае удзел у хлебанарыхтоўчай кампаніі. Тут праведзена вельмі вялікая работа, але-ж не адчуваецца ўдзел пракурора, як такавога. Некаторыя вуч. пракуроры прыводзяць цэлыя таблицы, як ідзе хлебанарыхтоўчая кампанія, нават па асобным с/саветам, але-ж мы нічога ня ведаем, што зрабіў той ці іншы пракурор ў справах выяўленьня кулацкіх гаспадарак, якія былі неабкладзены, а таксама ў выпраўленьні тых перагібаў, якія былі зроблены ў адносінах бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Ёсьць выпадкі, калі кулацкая гаспадарка атрымала „цьвёрдае“ заданьне 20 п. збожжа, а што зроблена пракурорам па гэтай справе невядома.

Цікава застанавіцца яшче і на наступным.

Пракуратура правела і праводзіць ў сучасны момант вялізарную работу ў справах выпраўленьня перагібаў па муніцыпалізацыі будынкаў. Збоку вуч. пракуратуры было шмат пратэстаў на няправільную муніцыпалізацыю, але-ж у шмат якіх выпадках апошнія недаведзены да канца. Калі пратэсты не здавальняліся, то далейшага руху ім ня было. Тут таксама заўважываецца яшчэ адзін недахоп. Пракуратура Рэспублікі часта запрашвае матар'ял у парадку нагляду праверыць правільнасьць муніцыпалізацыі будынкаў. Атрымоўваецца матар'ял, а між тым там няма галоўнага—разьмера і ацэнкі. Месяцамі цягнецца перапіска, ствараецца цяганіна, прыходзіцца зноў запрашваць матар'ял, бо гэтых галоўных момантаў, па якіх магчыма было б судзіць

аб правільнасьці муніцыпалізацыі-няма. Былі так сама выпадкі, калі па матар'ялам пракурора ацэнка і разьмер адзін, а па пратаколам РВК, гэтыя адзнакі зусім іншыя і ня відаць як пракурор рэагаваў на неправільную ацэнку з боку РВК. У справах муніцыпалізацыі былі выпадкі дапушчэньня палітычнай блізарукасьці з боку шмат якіх мясцовых органаў. З фармальнага боку як быццам усё праведзена. Так, быў такі выпадак: Горсавет муніцыпалізаваў будынак у чыгуначнага рабочага, які мае 28-мі гадовы працоўны стаж, будынак гэты будаваўся на працоўныя сродкі і ня з мэтай эксплёатацыі яго. Як па разьмеру, так і па ацэнцы ён як-быццам падыходзіць да муніцыпалізацыі, але ж ажыцьцяўленьне апошняга адносна гэтага будынка зьяўляецца дзеяньням фармалным і палітычна нявытрыманым. Пракуратура павінна была ўказаць на гэты момант Прэзыдыўму Горсавета. Праўда ёсьць матар'ял, які вельмі добра адлюстроўвая работу пракурора, так па Барысаўскаму раёну па пытаньню аб мабілізацыі сродкаў маем наступнае:

Узбуджана сьледства супроць кіраўніка крэдыт. т-ва за не ўзысканьне крэдытаў і невыкананьне пляну мабілізацыі сродкаў, так сама узбуджана сем крымінальных спраў супроць злосных неплацельшчыкаў пазык. ДARучана брыгадзе лёгкіх кавалярыстаў абсьледаваць ці своечасова ўстановы перадаюць грошы ад пазыкі і г. д.

Ёсьць прыклады, калі вуч. пракуратура зьвярнула шмат увагі на спагнаньне усіх штрафаў і пратэрмінаваных пазык ў Крэдытным таварыстве (Петрыкаўскі раён).

Галоўная задача, якая стаіць перад пракуратурай заключаецца ня толькі ў тым, каб актыўна і сумленна праводзіць тую ці іншую кампанію, але і ў тым, каб умець рэагаваць на тыя скрыўленьні, якія маюцца ў рабоце некаторых органаў, выпраўляць перагібы, сыгналізаваць аб тых ці іншых небясьпеках, на якім-небудзь вучастку работы. Як добры прыклад можна прывесьці наступнае:

У адным с/савеце некаторыя працаўнікі распаўсюджвалі чуткі аб тым, што партыя і Ўлада будуць прыменяць рэпрэсіўныя меры і да сераднякоў і раскулачваць іх. (Тураўскі раён). Нарсудзьдзя даведаўшыся аб гэтым паставіў пытаньне перад адпаведнымі органамі, была праведзена растлумачальная праца і непаразуменьні, выкліканыя гэтымі чуткамі, хутка рассеяліся.

Яшчэ адзін прыклад. Па Чырвонапольскім с/савеце (Магілеўскі раён.) 13 серадняцкім гаспадаркам былі дадзены цьвёрдыя заданьні, па пратэсту пракурора яны былі адменены, а вінаватыя прыцягнуты да адказнасьці. Вось такія прыклады і паказваюць што ў данным выпадку органы юстыцыі былі на месцы. Цьвердасьць, чоткасьць, хуткасьць ў рабоце неабходна асабліва органам пракуратуры.

У тых матар'ялах, якія прысылаюцца пракуратурай, як інфармацыйныя зводкі, лісты рознага роду паведамленьні-павінны быць дакладна і яскрава указана, што робіць пракуратура у тым ці іншым пытаньні, якая яе роля ў правядзеньні гэтай кампаніі.

Баявой задачай органаў пракуратуры зьяўляецца як-раз выяўленьне і прасячэньне ўсіх памылак і скрыўленьняў пры правядзеньні лініі Партыі, цьвёрдае і неуклоннае выпраўленьне розных перагібаў.

С. Мар'ясіна.

## Некаторыя чарговыя задачы, мэтады і нормы работы вучпракурора.

Пракуратура, як орган кантролю за выкананьням на мясцох дырэктыў партыі і ўлады павінна будаваць так сваю працу, каб забясьпечыць партыю і ўладу сапраўдным выкананьнем месцамі дырэктыў цэнтру, якія выражаюцца ў адпаведных законах, і сачыць за тым, каб на мясцох не ізвращаліся гэтыя дырэктывы. У бліжэйшы час праца вучастковага пракурора будзе вярашчацца вакол галоўных трох момантаў: вакол нарыхтовак усіх відаў, шляхавага будаўніцтва, і новых выбарах у саветы. Што галоўнае павінна цікавіць вучпракурораў у гэту кампанію, і якімі мэтадамі трэба тут дзейнічаць? Павінен лі ён прыняць непасрэдны ўдзел у ўсіх кампаніях, выяджаць у вёску для арганізацыі чырвоных абозаў з бульбай і хлебам будаваць дарогі і г. д? Доўгі вопыт працы ў пракуратуры ва ўсіх яе частках і ўдзел у вялікай колькасьці розных кампаній і асабіста вывучэньня вопыта ўдзела пракуратуры непасрэдна ў прошлагодніх нарыхтоўках і калектывізацыі прывоцзіць да вывадаў, што калі пракурор з органа надзора і кантроля непасрэдна праўрашчаецца ў выканаўцу, тады ён перастае быць органам пралетарскага нагляду, ён перастае быць органам, які аб'ядная і накіроўвае ўсе органы якія вядуць барацьбу з злачынствам і скрыўленьнямі партлініі, зьяўляецца прыдаткам к мясцовым органам улады тады ён становіцца ня толькі палезным і неабходным, а наадварот аб'ектыўна прыносіць вялікую шкоду. Нельга дапушчаць каб пракурор саўмешчаў бы сваей асобай упаўнаважанага РВК у розных кампаніях Калі пракурор пачынае непасрэдна выконваць, у ешвацца і падменяць сабой працу паасобных устаноў ён, як пракурор, сябе згубляе.

Перш на-перш пракурор павінен мець інфармацыю і трымаць цесную сувязь з кіруючымі мясцовымі органамі, і важнейшымі загатоўчымі арганізацыямі, упаўнаважанымі і брыгадамі і па іх сігналам аб тых, альбо іншых непаладках і нядбайнасьцях сігналізаваць і папярэджваць адпаведныя органы, а пры нявыкананьні прыцягваць да адказнасьці. Трэба асабіста падкрэсьліць, што ў мэтах барацьбы з валакітай неабходна замест перадачы міліцыі і сьледчым ворганам цэлага рада матар'ялаў з якіх бязумоўна відаць аб тым ці іншым злачынстве, гэтакія матар'ялы непасрэдна накіроўваюцца ў суд у парадку арт. 96 КПК гэта тым лягчэй у сучасны момант, што амаль усе кампанейскія справы аб недбайнасьці не патрабуюць папярэдняга сьледства. Пракурор павінен павесьці рашучую барацьбу з усялякага роду перагібамі і рашуча дабіцца правядзеньня гэнеральнай лініі партыі і сачыць за тым, каб ні ў якім разе не прымяняліс к серадняку мэтады ваздзейнічаньня, якія разьлічаны на кулацка-зажытачны элемэнт. Па шляхаваму будаўніцтву трэба зьвязацца з кіраўнікамі гэтых работ і трэбаваць ад яго канкрэтных данных хто і ў чым яму недапамагае і прыцягваць гэтакіх да адказнасьці ў тэрміновым парадку, за адно трэба праверацьы, як сам кіраўнік працуе. Нарэшце гэта ўдзел пракуратуры ў новай выбарчай кнмпаніі і тут пракурор не павінен

задзелацца ўпаўнаважаным РВК, а павінен вывучыць палітычны і фармальны зьмест новай інструкцыі аб выбары ў саветы і сачыць за тым, каб ні адзін кулак не пралез бы ў саветы і ні адзін працоўны ня быў бы пазбаўлен палітычных правоў галоўнае як і ўа ўсей працы не падменяць сабой і не работаць за мясцовыя ўстановы, а сачыць сыгналізаваць, папярэджваць і перадаваць суду.

Калі вуч. пракурор будзе будаваць сваю працу ў гэткім напрамку, ён падыме аўтарытэт пракуратуры.

Пракурор Рэчыцкага раёну Маргус.

## Аб парадку выкананьня прыгавароў аб высылцы з данай мясцовасьці.

У сувязі з наступленьнем на капіталістычныя элемэнты горада і вёскі і абвастрэньнем клясавай барацьбы, колькасьць прыгавароў судоў аб высылцы асуджаных з данай мясцовасьці, натуральна, значна павялічылася.

Гэта акалічнасьць выклікана патрэбнасьць перагляду існуючага парадку выкананьня прыгавароў аб высылцы з данай мясцовасьці, ці за межы БССР.

Калі адносна ссылкі ў аддалённыя мясцовасьці Саюзу ССР у адміністрацыйным ці судовым парадку маецца ўстаноўлены (этапны) парадак, то ў адносінах да высылаемых з данай мясцовасьці, фактычна ўжываўся разнастайны парадак на мясцох, нярэдна супярэчачы закону.

Перагляд парадку аб высылцы з данай мясцовасьці з забаронай ці без забароны пражываць у тых ці іншых мясцовасьцях і асабліва за межы БССР, выклікаецца яшчэ тым, што існуючы парадак высылкі, выкладзены ў дадатку да ўвагі да арт. 38 Крымінальнага Кодэксу (гл. дадатак у канцы КК), пры правядзеньні яго ў жыцьцё уступае ў супярэчнасьць з парадкам існуючым у іншых савецкіх рэспубліках. Напрыклад у РСФСР высылаемыя павінны з забароненых мейсц пражываньня выяжджаць зусім вольна на свае ўласныя сродкі, бяз ўсялякіх праходных пасьведчаньняў і рэгістрацый і ні могуць ні ў якім разе трымацца пад вартай У нас жа бывалі выпадкі, калі асоба, прысуджаная да высылкі за межы БССР, у якасьці асноўна меры сацыяльнай абароны ці дадатковай (пасьля адбыцьця асноўнай меры), трымаліся пад вартай пакуль не адправіцца група этапных высылаемых, да акой далучалася і гэта асоба. Паколькі яны накіроўваліся этапам яны, за мяжой БССР, канвойнай камандай здаваліся пад ахрану, а там, па закону суседняй Савецкай Рэспублікі трымаць пад вартай ня можна. Акрамя гэтага і астатнія правілы дзя выкананьня прысудаў аб высылцы, у сучасны момант аказаліся не адпаведаючымі, заграмаджаючымі органы міліцыі і проста валакітнымі.

Таму пытаньне аб гэтым НКЮ сумесна з НКУС узьнята было прад Падрыхтоўчай Камісіяй СНК аб зьмене пастановы ЦВК і СНК „пра мясцовасьці БССР, дзе забараняецца жыць асобам, выселеным у судовым альбо ў адміністрацыйным парадку і пра рэгістрацыю такіх асоб у органах міліцыі“ (Зб. Зак. БССР 1928 г. № 17, арт. 159 і № 31 арт. 295), якая далучана ў якасьці дадатка да ўвагі да арт. 38 КК, у выніку чаге пастаноўлена: 1) пералік гарадоў, дзе забаронена пражыраць высылаемай з данай мясцовасьці пашырыць дадаўшы да існуючага пераліку гарады— Барысаў Рэчыцу, Шклоў і пасёлак Добруш як мясцовасьці дзе маюцца фабрыкі і заводы са значным рабочым насельніцтвам і 2) спрошчан значна наогул парадак выкананьня прысудаў аб высылцы з данай мясцовасьці ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі сучаснага моманту.

Самы парадак даручана ўстанавіць Народнаму Камісарыяту Юстыцыі і Народнаму Камісарыяту Унутраных Спраў, які спэцыяльнай інструкцыяй гэтых наркаматаў будзе апублікаван у бліжэйшыя дні ў Бюлетэні СНК.

Рудзінская.

## Разьмеркаваньне ўраджаю і прыбыткаў у калгасах.

Арганізацыя правільнага размеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў у калгасах зьяўляецца аднэй з важнейшых прадпасылак замацаваньня калгаснага будаўніцтва і шырокага ўцягненьня ў калгасы новых мас батракоў, беднякоў і серадн якоў. Разьмеркаваньне ўраджаю і прыбыткаў калгасаў адно з буйнейшых і складаных пытаньняў калгаснага будаўніцтва .Калгасы павінны свае пляны разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў пабудаваць такім чынам, каб кожны калгасьнік, кожны бядняк і сер адняк пераканаліся ў перавагах каляктыўнага гаспадараньня. На разьмеркаваньні ўраджаю і прыбыткаў калгасы павінны яшчэ раз паказаць неўвайшоўшым яшчэ ў калгас хістаючымся беднякам і сераднякам, што адзінным шляхам перабудовы сельскай гаспадаркі і палепшаньня на грунце гэтага іх матар'яльнага і культурнага становішча зьяўляецца шлях калгаснага будаўніцтва. Вось чаму разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю-справа буйнай палітычнай важнасьці.

Ці можна ў гэтай адносіне рэгляментаваць кожны крок калгасу. Зразумела, не. Аб гэтым даў яскравы адказ т. Якаўлеў на 16 Партзьездзе. Ён адзначыў: „мы ведаем, што намясцох дзе-ндзе былі гэтыя пробы, яны абярнуліся ў інструкцыю ў сотні граф, з дапамогай якіх нашы людзі жадаюць з краю прадбачыць, як ў паасобным калгасе патрэбна разьмеркаваць ураджай паміж калгаснікамі З гэтага нічога, акрамя бюракратычнай выдумкі, ня выходзіла. Трэба абмежавацца тым, што важна з пункту погляду палітыкі, а гэта цалкам паказана ў рашэньнях ЦК ... Трэба не дапусьціць такога бюракрататворчаства і ў далейшым замест новых інструкцый прасачыць, каб пытаньні разьмеркаваньня ўраджаю вырашаліся не за сьпіной калгасьнікаў, ў якой небудзь канцэляры, а на падставе дырэктывы ЦК партыі самімі калгасьнікамі, агульным сходам калгасьнікаў з зацьвярджэньня агульнага сходу калгасьнікаў. Гэта будзе лепшай гарантыяй супроць памылак“.

Якія ж галоўныя дырэктывы і паказаньні маюцца адносна разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў ў калгасах? Гэта, між іншым, наступныя:

1. Ліст Наркамзему БССР і Белкалгасцэнтру („Савецкая Беларусь“ ад 20 ліпеня 1930 г. № 166

здачу зернавых прадуктаў па кантракцыйных дагаварах уключаецца ў устаноўленую абавязковую норму здачы калгасамі зернавых прадуктаў. У гэтым лісьце Белкалгасцэнтр падкрэсьлівае таксама, што звыш устаноўленай нормы калгасы здаюць збожжа толькі па пастанове сходу калгасьнікаў, ў сувязі з чым неабходна разгарнуць шырокую растумачальную работу сярод калгасаў і калгасьнікаў, дамагаючыся, каб яны свае таварныя лішкі прадалі дзяржаўным і коопэрацыйным установам. Падкрэсьліваецца таксама, што дача цьвёрдых заданьняў калгасам аб здачы таварных лішкаў звыш устаноўленай абавязковай нормы здачы забараняецца.

IV.-Пастанова НКЗ і Калгасцэнтру СССР аб уборцы засеваў раскулачаных гаспадарак („Савецкая Беларусь“ ад 28/VIII-30г. № 199). Паказанай пастановай НКЗ і Калгасцэнтр растлумачваюць, што:

1) Пасевы былых кулацкіх гаспадарак там, дзе маюцца калгасы, незалежна ад таго, ці знаходзяцца яны зараз на тэрыторыі калгасаў альбо па-за імі, паступаюць у поўнае распараджэньне калгасаў. Уборка іх ураджаю робіцца сіламі калгасу. Увесь валавы збор хлеба з гэтых пасеваў залічваецца ў валавы прыбытак калгасу. Чысты прыбытак ад ураджаю пасеваў былых кулацкіх гаспадарак уносіцца на павялічэньне паявых узносаў батракоў і беднякоў ў калгасы.

2) Пасевы былых кулацкіх гаспадарак, дзе ня маецца калгасаў, паступаюць у поўнае распараджэньне камітэтаў сялянскай ўзаемадапамогі, якія арганізуюць і адказваюць за сваечасовасьць уборкі ўраджаю.

3) Увесь ураджай пасеваў б. кулацкіх гаспадарак за выключэньнем насеньня, неабходны пад засеў гэтай плошчы ў будучым годзе, здаецца цалкам хлебазагатоўчым арганізацыям.

V. Неабходна таксама адзначыць тлумачэньне Наркамзему і Белкалгасцэнтру аб парадку карыстаньня пасевамі шматгадавых траў („Савецкая Беларусь ад 26/VI-30г. № 147). Гэтай пастановай растлумачваецца, што:

1) Пасевы шматгадавых кармовых траў (канюшына, цімафееўка) тых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія не ўваходзяць у калгасы, але плошча зямлі, на якой зроблен пасеў, адышла пад калгас, ураджай траў павінен застаўляцца ў гэтым годзе за тымі гаспадаркамі, якія гэты пасеў зрабілі.

2) Гэтыя-жа пасевы, калі яны зроблены бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі да ўваходжаньня іх ў калгасы, але зараз гэтыя гаспадаркі знаходзяцца ў калгасе, застаюцца таксама ў карыстаньні тых гаспадарак, якія зрабілі гэты пасеў.

Урэшце трэба яшчэ адзначыць пастанову НКЗ і Калгасцэнтру СССР ад 30 жніўня 1930 г. („Известия„ ЦИКа СССР і ВЦИКа № 242-1930 г.) пра разьмеркаваньне ўраджаю ўкалгасах. У паказанай пастанове Наркамзем і Калгасцэнр СССР лічаць неабходным, што пры арганізацыі разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў павінны быць цалкам захаваны, між іншым, наступныя паказаньні:

1) Пры разьмеркаваньні ўраджаю павіна быць цалкам забясьпечана здача таварнага хлеба дзяржаве ва ўстаноўленых для кожнага калгасу разьмерам і тэрмінах.

2) Пры разьмеркаваньні прыбыткаў належыць утрымаць усе зробленыя ўжо ў лік прылічваючыйся для калгасьніка долі ўраджаю выдадзеныя авансы натурай і грашыма.

3) Належыць цалкам прадугледзіць аплату запзычанасьці калгасу, што прыпадае на 1930-31 г.

4) Кіраўніцтва калгасу павінна прасачыць, каб з прылічваючайся долі ўраджаю ці з аднаасобных прыбыткаў калгасніка была зьвернута яго запазычанасьць перад кредытным таварыствам у часьці, якая не пакрыта ўнесенай ім у калгас маёмасьцю.

Вось галоўныя дырэктывы, дадзеныя адносна разьмеркаваньня прыбыткаў і ўраджаю ў калгасах. Гэтыя дырэктывы трэба шырока папулярызаваць, бо ад пасьпяховага правядзеньне іх у значнай ступені залежыць далейшае замацаваньне калгаснага будаўніцтва. Адначасова неабходна весьці рашучаю бардзьбу з кулацкімі спробамі разьмеркаваць прыбыткі і ўраджай ў калгасах па паёх ці едакох.

Д. Гарцман.

## Аб парадку абкладаньня індыв. сельска-гаспадарчым падаткам.

Ад шэрагу вучастковых пракурораў паступаюць розныя запытаньні па справе абкладаньня гаспадаркі с. г. падаткам і пераважна ў індывідуальным парадку.

У зьвязку з гэтым Пракуратура Рэспублікі лічыць неабходным даць наступныя паказаньні:

1) Палажэньне пра адзіны с. г. падатак зьмешчан ў № 13 Збора Законаў СССР за 1930 г. а таксама ў газэтах: „Известия“ ЦВК СССР за 25/II-30 г. № 55, і ў Савецкай Беларусі №№ 48, 49, 50 і 52.

2) З прычыны таго, што на практыцы, пры ўжываньні палажэньня пра адзіны сельска-гаспадарчы падатак, артыкул 29, дзе пералічваліся прыкметы, пры наяўнасьці якіх гаспадаркі лічацца кулацкімі і ападаткоўваюцца ў індывідуальным парадку, былі выпадкі неправільнага тлумачэньня і, у парушэньне гэтага артыкулу, пашырыліся прыметы кулацкіх гаспадарак, што выклікала ападаткаваньне ў індывідуальным парадку серадняцкіх гаспадарак, у паасобку незаконна ападаткаваліся ў індывідуальным парадку гаспадаркі што ўжываюць наёмную працу ў разьмерах, пры якіх, паводле законаў, члены гэтых гаспадарак не пазбаўляюцца права выбіраць у саветы, ЦВК і СНК СССР удакладніў арт. 29 палажэньня, запісаўшы яго 23/VII-30 году ў наступнай рэдакцыі (Известия № 204,-З. З. СССР № 37 ст. 139), пры якой непатрэбны дадатковыя да яго абавязковыя пастановы мясцовых органаў:

Гаспадаркі лічацца кулацкімі і ападаткоўваюцца ў індывідуальным парадку, калі ёсьць такія прыкметы:

а) калі гаспадарка сыстэматычна ўжывае наёмную працу для сельска-гаспадарчых работ ці ў саматужных промыслах і прадпрыемствах, выключаючых выпадкі, калі па выбарным заканадаўству Саюзу ССР ужываньне наёмнае працы не выклікае пазбаўленьне правоў выбіраць у саветы;

б) калі ў гаспадарцы ёсьць млын, алейня, крупэрня, просарушка, воўначоска, воўнабітка, цё-

рачнае прадпрыемства, бульбяная, пладавая ці гародніная сушыльня ці іншае прамысловае прадпрыемства—калі ў гэтым прадпрыемстве ўжываецца мэханічны руховік; калі ў гаспадарцы ёсьць такое прадпрыемства. якое працуе з ужываньнем сілу ветру ці вады, але пры ўмове, што даход ад гэтага прадпрыемства больш за мінімума, які ў данай мясцовасьці не ападаткоўваецца адзіным сельска-гаспадарчым падаткам.

Калі ў гаспадарцы ёсьць аднастойны ветрак, то гэта не зьяўляецца прыкметаю для ападаткаваньня яе ў індывідуальным парадку;

в) калі ў гаспадарцы ёсьць прамысловае прадпрыемства, праз якое яна эксплёатуе вакольнае насельніцтва аддаючы работы да дому, альбо якое аддае ў арэнду;

г) калі гаспадарка сыстэматычна аддае ў наём складаныя сельска-гаспадарчыя машыны з мэханічнымі рухавікамі ці за плату працуе гэтымі машынамі для іншых гаспадарак;

д) калі гаспадарка арганізуе зямлю на ўмовах, якія раённая падатковая камісія прызнае вельмі цяжкімі для здатчыкаў (кабальнымі);

е) калі гаспадарка арандуе для гандлёвай і прамысловай эксплёатацыі сад, вінаграднік і да т. п., пры чым саветы народных камісараў саюзных рэспублік устанаўляюць гранічны размер і умовы аддачы садоў і вінаграднікаў у арэнду, пры якіх арэнда ня можа быць прыкметаю для ападаткаваньня ў індывідуальным парадку;

ж) калі гаспадарка сыстэматычна аддае ў наём паасобныя абсталяваныя будынкі пад кватэру ці прадпрыемства, пры чым саветы народных камісараў саюзных рэспублік устанаўляюць размер даходах аб аддачы ў наём памяшканьня, пры якім гэтая аддача ў наём ня можа быць прыкметаю для ападаткаваньня ў індывідуальным парадку: гэты размер даходу ня можа вызначаць ніжэй за мінімум, які ў данай мясцовасьці не ападаткоўваецца с. г. падаткам;

з) калі члены гаспадаркі займаюцца гандлем квотніцтвам ці маюць іншыя непрацоўныя даходы у тым ліку, як служыцелі культу, пры ўмове, што даход з гэтых крыніц больш за мінімуму, які ў данай мясцовасьц не ападаткоўваецца с. г. падаткам".

Паказаныя ў гэтым артыкуле прыкметы для абкладаньня ў індывідуальным парадку зьяляецца вычэрпываючым і мясцовыя органы ня могуць абкладаць гаспадарак індывідуальна на падставе іншых прыкмет.

3) Паводле арт. 6 Інструкцыі аб выбарах у саветы, зацьверджанай ЦВК СССР 3/X-30 г. (Известия № 279, Савецкая Беларусь № 237), ня могуць быць за ўжываньне наёмнай сілы пазбаўлены выбарчых правоў ніжэйнаступныя асобы:

а) сяляне—земляробы і жывёлаводы, ужываючыя ў сваей гаспадарцы наёмную працу аднаго сталага рабочага, пры асобных абставінах, як: хвароба, мабілізацыя, прызыў ў Чырвоную Армію, абраньне на грамадзкую пасаду, патрабуючую адрыву ад гаспадаркі і г. д., на ўвесь час данага стану гаспадаркі;

б) землявробы, наймаючыя сэзонную рабочую сілу ў гарачы час для ўборкі збожжа тэхнічных культур і траў у размерах, вызначаных спэцыяльнымі пастановамі ЦВК СССР і ЦВК саюзных рэспублік;

в) сяляне землявробы, якія адыходзяць на сэзонныя работы і ўжываюць у свадй гаспадарцы ў пэрыяд свайго адыходу на сэзонныя работы наёмную працу ня больш аднаго работніка, а таксама члены сямей гэтых сялян;

г) рабочыя і члены сямей рабоых фабрык і заводаў, не парваўшыя сувязі з сельскай гаспадаркай, ўжываючыя ў сваей гаспадарцы наёмную працу не больш аднаго сталага работніка.

4. Землявробы, жывёлаводы, саматужнікі і рамесьнікі, якія ўжываюць наёмную працу, сэзонную ці сталую, пазбаўляюцца выбарчых правоў у тых выпадках, калі ўжываньне гэтай наёмнай працы пашырае іх гаспадарку за межы працоўнай.

Асноўнай адзнакай працоўнай гаспадаркі ў данным выпадку зьяўляецца дапаможны характар наёмнай працы і абсязковы ўдзел у штодзёнай рабоце наяўных працаздольных членаў данай гаспадаркі. (Інструкцыя аб выбарах у саветы СССР п. „а" арт. 5 і ўвага).

Гэтыя адзнакі зьяўляюцца асноўнымі: пры абмеркаваньні пытаньня, ці пашырае наёмная праца гаспадарку за межы працоўнай, трэба браць пад увагу ўсе акалічнасьці справы, як колькасьць зямлі ў адносінах да ліку членаў сям'і, размеры ўжываньня наёмнай працы і г. д.

Размеры ўжываньня наёмнай працы, пры якіх члены гаспадаркі ня могуць пазбаўляцца выбарчых правоў, устаноўлены ў інструкцыі аб выбарах у саветы БССР.

Ва ўсіх паказаных выпадках, калі члены аспадаркі ня могуць быць пазбаўлены за ўжываньне наёмнай сілы выбарчых правоў, гаспадарка іх ня можа абкладацца, с. г. падаткам у індывідуальным парадку.

5. Пастановай СНК БССР за 15/VIII-30 г. устаноўлена (Сав. Бел. № 190) што: а) арэнда і здача ў арэнду садоў і гарадоў не зьяўляецца адзнакай для абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку, калі плошча арандуемага ці зданага ў арэнду сада ці гароду не перавышае 9/8 дзесяціны ў сельскіх мясцовасьцях і 1/4 дзсяціны ў гарадох.

б) даход ад здачы ў наймы асобных абсталяваных памяшканьняў пад жыльле ці прадпрыемствы, не зьяўляецца адзнакай для індывідуальнага абкладаньня, калі сума гэтага даходу не перавышае 250 р. за год.

6) Мінімум прыбытковасьці, пры якім гаспадарка не ападаткоўваецца с/г. падаткам, на які робіцца адноска ў п. п. „б", „е", „ж", „з" арт. 29 палажэньня пра с/г. падатак, вызначан у пастановы ЦВК іСНК БССР „пра адзіны сельска-гаспадарчы падатак" ад 19/III-30 г. (Сав. Бел. № 56-3 з. 1930 г. № 17, п. 117) у наступным размеры: пры 1-2 едаках 140. на гаспадарку, пры 3-4 едаках 160 р. і 5 едакоў і больш=180 р. на гаспадарку.

Пастановай Саветаў Народовыя Камісараў БССР за 15/VIII-30 г. даручана раённым выканаўчым камітэтам праверыць правядзеньне індывідуальнага абкладаньня на 1930-31 г. у адпаведнасьці з пастановай ЦВК іСНК СССР за 23V/III-30г. аб зьмене рэдакцыі арт. 29 палажэньня пра адзіны с/г. падатак і законадаўствам БССР і за выкананьнем гэтага даручэньня СНК, вучастковыя пракуроры павінны прасачыць.

7) Пры абкладаньні ў індывідуальным парадку павінны дакладна ўжывацца паказаныя пастановы і павінны быць прыняты як мясцовымі органамі, гэтак і пракуратурай ўсе захады, каб са-

праўды кулацкія гаспадаркі рознымі спосабамі не ўхіляліся ад індывідуальнага абкладаньня, і з другога боку, каб ні ў якім разе не абкладаліся індывідуальна бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі. Асаблівую ўвагу трэба зварочваць на гаспадаркі, членамі двара якіх зьяўляюцца чырвонаармейцы і настаўнікі.

8) Пры пераглядзе спраў у парадку нагляду і па скаргах зацікаўленых асоб трэба ўважліва правяраць, наколькі даведзены тыя пастамовы (адзнакі кулацтва арт. 26), якіх гаспадарка абкладзена ў індывідуальным парадку і ў прыватнасьці ці абгаваралася справа на сходзе беднноты і якія канкрэтныя матар'ялы гэтым сходам дадзены.

У выпадках недаведзенасьці або сумленьня ў маючыхся ў справе довоўах, вучастковыя пракуроры павінны ўтвараць па справе расьледваньня.

9) Калі вучастковы пракурор знойдзе няправільным індывідуаланае абкладаньне ён павінен апратэставаць у РВК і, у выпадках, калі РВК пакіне пратэст бяз вынікаў, прыслаць усю справу з копіяй пастановы РВК у пракуратуру рэспублікі.

## Зьмены і дадаткі, унесеныя ў кодэсы БССР пасьля 1 кастрычніка 1930 г.

### I. Крымінальны кодэкс.

1. Крымінальны Кодэкс дапаўняецца арт. 210 а наступнага зьместу:

„Арт. 210-а. Паданьне службовую асобаю Дзяржаўнаму Банку альбо іншым крэдытным установам сьвядома фальшывых зьвестак аб выкананьні фінансавага пляну, аб таварнай наяўнасьці альбо іншых данных, паданьне якіх абавязвае паводле правіл крэдытнай установы, выклікае пазбаўленьне волі да трох гадоў“.

(Сав. Бел. № 211-30 г.).

2. Арт. 85 Крымінальнага Кодэксу дападняецца п. „г“ наступнага зьместу:

г) выпуск грашовых абавязацельстваў на паказчыка, а таксама розных іменных дакумэнтаў і дакумэнтаў на паказчыка і знакаў, прызначаных быць сродкамі плацяжоў (грашовых сурагатаў), пад якой бы назвай яны ні выпушчаліся (боны, маркі, таварныя ордэры, разьліковыя квіткі і да т. п.), а таксама выраб каштоўных папер (акцый, часовых пасьведчаньняў, аблігацый, палык, укладных дакумэнтаў, чэкавых кніжак і грашовых сурагатаў і г. д.) установамі, што ня маюць на гэта права, альбо без належнага дазволу, выклікае пазбаўленьне волі да трох гадоў“.

(Сав. Бел. № 204-30 г.).

3. Арт. 113 Крымінальнага Кодэксу прынят у наступнай рэдакцыі:

„113. Нашэньне ордэну Саюзу ССР „Ордэну Леніна“, „Чырвоны Сьцяг“, „Працоўны Чырвоны Сьцяг“ і Чыроная Зьвязда“ асобамі, якія ня маюць на гэта права выклікае—штраф да трохсот рублей альбо прымусовыя работы да трох месяцаў з канфіскацыяй гэтых ордэнаў“.

(Сав. Бел. № 211-30 г.).

### II. Грамадзянскі працэсуальны кодэкс.

Арт. 336 ГПК прыняты ў наступнай рэдакцыі:

„336.—Спагнаньне з заработнай платы робіцца на наступных падставах:

а) забараняецца спаганяць з часткі заработнай платы роўнай агульна-абавязковаму мінімуму, устаноўленаму паводле Кодэксу аб працы;

б) з часткі заработнай платы, якая перавышае агульны-абавязковы мінімум, дазваляецца браць ня больш 50%: 1) на ўтрыманьне членаў сям'і, 2) з рабочых, якія кінулі сэзонную работу дзяржаўных органаў раней паказанага ў дагаворы тэрміну альбо выкананьнях абумоўленага ў дагаворы заданьня на выплату неадпрацаваных авансаў, кошту заплачанага наймальнікам праезду да месца работы і атрыманай спэцвопраткі.

Для ўсіх іншых відаў спагнаньняў ня можа брацца больш 20 проц. тае часткі заработнай платы, якая перавышае агульна-абавязковы мінімум.

Калі робіцца спагнаньне адначасова на ўтрыманьне сям'і альбо для аплаты паказаных у п. „б“ прэтэнзій з сэзонных рабочых і іншых прэтэнзій, дык забараняецца браць больш 50 проц. заработнай платы.

Паказаныя ў п. п. „а“ і „б“ абмежаваньні не пашыраюцца на плату, устаноўленую спэцыяльнымі законамі“.

(Сав. Бел. № 17-30 г.).

### III. Кодэкс законаў аб шлюбе, сям'і і апецы.

1. Артыкулы 4 і 93 прыняты ў наступнай рэдакцыі:

„4. Браць шлюб могуць асобы ад 18 гадоў. У выключных выпадках Прэзыдыум Раённага Выканаўчага Камітэту, а ў гарадох: Менску, Віцебску, Гомелі—Прэзыдыум Гарадзкога Савету, пры абавязковым удаеле ў абгаварэньні гэтага пытаньня прадстаўнікоў адпаведных камітэтаў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак можа дазволіць браць шлюб асобам ад 16 гадоў“.

„Арт.—Скаргі і пратэсты па апекунскіх справах падаюцца:

а) у Прэзыдыум раённых выканаўчых камітэтаў-на пастановы і дзеяньні ўсіх апекунскіх устаноў, апроч Прэзыдыумаў гарадзкіх саветаў гарадоў: Менску, Віцебску, Гомеля;

б) у Народны Камісарыят Унутраных Спраў—на пастановы і дзеяньні Прэзыдыумаў гарадзкіх саветаў гарадо; паказаных у п. „а“ гэтага артыкула.

Народны Камісарыят Унутраных Спраў мае права агульнага кіраваньня і нагляду за дзейнасьцю апекунскіх устаноў Рэспублікі.

(Сав. Бел. № 242-30 г.).

2. Артыкулы 1, 4 і 6 першага дадатку да Кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы прыняты ў наступнай рэдакцыі:

„1. Запіс актаў грамадзянскага стану (нараджэньняў, сьмерці, шлюбу і ўсынаўленьняў) робіцца адказнымі службовамі асобамі органоў запісаў актаў грамадзянскага стану (ЗАГС), якія знаходзяцца пры гарадзкіх, местачковых і сельскіх саветах.

Работаю органаў ЗАГС'у межах раёну кіруюць прэзыдыумы раённых камітэтаў, а ў гарадох, паказаных у арт. 4 гэтага Кодэксу, Прэзыдыумы горадзкіх саветаў.

Агульны нагляд за дзейнасьцю органаў ЗАГС, у ажыцьцяўляецца Народным Камісарыятам Унутраных Спраў.

Вядзеньне кніг ЗАГС'у рэгулюецца інструкцыяю якая выдаецца Народным Камісарыятам Унутраных Спраў і Юстыцыі".

„4. Калі трэба зрабіць папраўкі запісаў ў кнігах актаў грамадзянскага стану, дык, калі няма спрэчкі папраўкі робяцца з дазволу Прэзыдыуму раённага выканаўчага камітэту альбо гарадзкога савету (у гарадох, паказаных у арт. 4 гэтага Кодэксу)".

„6. Скаргі на адмаўленьне ў рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану падаюцца без абмежаваньня тэрміну: а) у гарадох, паказаных у арт. 4 гэтага Кодэксу, Прэзыдыумы гарадзкіх саветаў, б) у іншых мясцовасьцях—у Прэзыдыумы раённых выканаўчых камітэтаў.

(Сав. Бел. № 242 30 г.).

3. Арт. 2 другога дадатку да Кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы прынят у наступнай рэдакцыі:

„2. Для абгляду псыхічна хворых і слабых на розум утвараюцца, па пастановах Прэзыдыуму гарадзкога савету ў гарадох, пералічаных у арт. 4 гэтага Кодэксу, і Прэзыдыуму раённага выканаўчага камітэту ў іншых мясцох асобныя камісіі.

Склад гэтых камісій і парадак іх работы вызначаюцца Народнымі Камісарыятамі Аховы здароўя і Унутраных Спраў".

(Сав. Бел. № 242-30 г.).

IV.—5 верасьня 1930 г. прынята наступная пастанова ЦВК і СНК БССР „Пра зьмену падсуднасьці грамадзянскіх і крымінальных спраў і пасьледственасьці крымінальных спраў ў зьвязку з ліквідацыяй акруг":

„У зьвязку з ліквідацыяй акруг Цэнтральны Выканаўчы камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць часова да зацьверджаньня новых Грамадзянскага і Крымінальнага працэсуальных кодэксаў, устанавіць наступныя правілы пра падсуднасьць грамадзянскіх і крымінальных спраў і падсьледственасьць крымінальных спраў:

1. Народнаму Суду ў складзе народнага судзьдзі і двох народных заседацеляй падсудны ўсе грамадзянскія (у тым ліку і зямельныя) і крымінальныя справы апроч спраў, падсудных Вярхоўнаму Суду, таварыскім, сельскім і местачковым судам, а таксама спраў, для якіх працэсуальнымі кодэксамі ўстаноўлены асобны парадак вырашэньня (працоўныя сэсіі, народны судзьдзя без народных засядацеляў).

2. Судовай Калегіі Вярхоўнага Суду падсудны крымінальныя справы, па якіх крымінальным Кодэксам прадугледжана вышэйшая мера сацыяльнай абароны і справа пэрсанальнай падсуднасьці, якія па правілах крымінальна-працэсуальнага кодэксу не падсудны народнаму суду.

Вярхоўнаму суду даецца права вынясь любую грамадзянскую альбо крымінальную справу ад народнага суда, і разглядзець у судовай Калегіі Вярхоўнага Суда або перадаць справу, падсудную Вярхоўнаму Суду на разгляд народнага суда.

3. Нагляд за прысудамі і пастановамі народных судоў па крымінальных і грамадзянскіх справах ускладаецца на Пракуратуру і Вярхоўны суд.

Тэрмін для падачы скарг у парадку нагляду па крымінальных і грамадзянскіх справах абмяжоўваецца адным годам. Не дазваляецца прымаць скарг у парадку нагляду на пастановы і прысуды суда першай інстанцыі да сканчэньня тэрміну для абскарджаньня, пры падачы скаргі да разгляду яе.

Усе справы і абавязкі акруговых пракурораў перадаюцца вучастковым і гарадзкім пракурорам.

5. Папярэдняе сьледства абавязкова па ўсіх справах, падсудных Вярхоўнаму Суду, таксама па справах:

а) пра прысваеньне або растрату і крадзежах з дзяржаўных, грамадзкіх або кааперацыйных установаў і арганізацый (п. „б" арт. 204 і п. „б" арт. 205 Крым. Код.);

б) пра заключэньне нявыгадных дагавароў або ўгод службовай асобай (арт. 206 Крым. Код.);

в) пра дачу і атрыманьне хабару і аб правакацыі хабару (п. „б" арт. 207, п. „б" арт. 208 арт. 209 Крым. Код.);

г) пра разбой зроблены групай асоб з ужываньнем зброі (п. п. „б" і „в", арт. 208 Крым. Код.);

д) пра падпал (арт. 262 Крым. Код.);

е) пра злачынствы, зробленыя на глебе распальваньня варожасьці паміж нацыянальнасьцямі (арт. 84 Крым. Код.);

Па ўсіх іншых справах, на якіх папярэдне сьледства неабавязкова, яно можа праводзіцца як па ініцыятыве сьледчага, так і па загаду пракурора альбо па матырыраванай пастанове суду. Органы дазнаньня накіроўваюць непасрэдна ў народны суд справы, па якіх мерай сацыяльнай абароны Крымінальным Кодэксам вызначана пазбаўленьнем волі да трох гадоў альбо больш лёгкай мерай сацыяльнай абароны. Усе іншыя справы органамі дазнаньня накіроўваюцца ў суд праз сьледчага.

6. Справы па якіх праводзіцца папярэдне сьледства і якія падсудны Вярхоўнаму Суду накіроўваюцца ў суд праз Пракуратуру Рэспублікі.

Справы падсудныя народным судом, накіроўваюцца ў суд непасрэдна сьледчымі.

Усе справы спыняюцца асобай, якая вядзе дазнаньне ці сьледства.

(Сав. Бел. № 211-30 г.)

## Запытаньне з мейсц

Адносна забою жывёлы.

Закон аб забароне жывёлы апублікаван:

1) У 36. Зак. БССР за 1930 г. № 10 паст. 73,

2) У газ. „Известия" за 13/VIII г. г. пастанова СНК СССР. Пастанова 11/VIII п. 2.

Акрамя таго маецца наступная тэлеграма за подпісам Нам. Старшыні СНК і НКГ за 30/VII наступнага зьместу:

„Гэтага часу працягваецца дэзарганізацыя мясазагатоучага рынку перапалатамі як арганізацыямі так і прыватнікам наўпрэкі усім дырэктывам наглядаецца спажываньне мясцох загатоўленага мяса падлягаючага здачы пляну што зрывае снабжэньне Чырвонай Арміі рабочых цэнтраў. Катэгарычна прапаную тэрмінова дабіцца аздараўленьня рынка шляхам рашучых мерапрыемстваў забясьпечыць работу мясным рынку выключна праз загатавіцеляў Белмяса Жывсаюз Спажыўкаопэрацыю зьняць усіх іншых загатаўляючых свае патрэбы тчк Перадаць пракурору пераплачваючых таксама спажываючых на месцы без нарадаў Белмяса арганізацыі справы тчк Павесьці суровую барацьбу

прыватнікам лініі фінорганаў ліквідаваць безпатэнтны гандаль жывёлай мясам патаемным забоем гандлем нekляйменым мясам накладваючы максымальныя штрафы прымушэньнем кляйміць бойнях. Рашуча бароцца таемным забоем не перашкаджаючы сялянам продаж базарах клеймёнага мяса уласнага забою тчк Рынак мясазагатовак прыраўнены хлебазагатоўкам чаму асаблівае значэньне набывае правільная арганізацыя барацьбы прыватнікам уцягненьня грамадзкасьці серадняцка-бядняцкага актыву справу выяўленьня аказаньня мясных спэкулянтаў вёсцы і мястэчках“.

**ЗАПЫТАНЬНЕ:**

У якім парадку адказваюць асобы, якія ня выканалі дагавора аб контрактацыі.

Па гэтаму пытаньню ёсьць тлумачэньне Пленуму Верхсуду (пратакол №89 за10 верасьня 1930г.§ 2.)

**ЗАПЫТАНЬНЕ:**

Як быць з тымі, якія прадаюць атрыманыя талёны дэфіцытных тавараў.

Адказ дае Пленум Верхсуду:

„Растлумачыць, што прыцягненьне да адказнасьці і кваліфікацыя па арт. 155 Крымінальнага Кодэксу наогул усіх выпадкаў абмену і продажу працоўнымі дэфіцытных тавараў на базарах, зьяўляецца немэтазгодным.

Барацьба з масавым абменам дэфіцытных тавараў на рынках на сельска-гаспадарчыя прадукты харчаваньня і продажам іх па павышанай цане, павінна весьціся у залежнасьці: а) ад колькасьці, б) сытэматычнасьці і в) мэты гэтакага абмену і продажу.

1. Паасобныя выпадкі абмену дэфіцытных тавараў на сельска-гаспадарчыя прадукты, калі абмен зроблен працоўным і нязначным разьмеры для сваёй патрэбы (напр. пачка махоркі, катушка нітак, кавалак мыла і інш.), трэба разглядаць як праступак на які трэба узьдзейнічаць шляхам грамадзкага ганьбаваньня і па лініі ЦРК і прафсаюзнай нават да часовага адбіраньня каапэрацыйных кніжак і выключэньня з саюзу. Пакуль навакол гэтага шкоднага абмену на базарах тавараў, атрыманых па заборных кніжках і талёнах, не праведзена належнай грамадзкай думкі і не скарыстаны ўсе меры папярэджаньня гэтага абмену, узбуджаць справы супроць працоўных у крымінальным парадку нямэтазгодна. Таксама трэба весьці такім чынам барацьбу і з продажам атрыманых працоўнымі дэфіцытных тавараў па павышанай цане.

2. Калі-ж выяўляюцца асобы, вытвараючыя сыстэматычны абмен альбо продаж больш значнай колькасьці дэфіцытных тавараў, наяўна правышаючай норму выдачы у ЦРК, альбо продаж талёнаў на атрыманьне тавараў, належыць узбуджаць крымінальную справу па арт. 155 КК“.

Адказны рэдактар **С. Мар'ясіна.**



Галоўлітбел № 3466. Тыраж 500 экз. Друкарня Менсправудому.